Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

# СЯЛЯНСКАЯ ПРАЎДА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 зл. Для заграніцы ўдвая даражэй.
**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту ў 1 шп.

№ 28. Вільня, Серада, 3-га сьнежня 1924 г. Год I.

## Месца сялянству!

У камуністычнай рэвалюцыі ў Расеі кіраўнічую ролю адыграў мястовы пралетарыят. І зусім натуральна, што, дайшоўшы перамогі, работнікі ўзялі ўладу ў свае рукі і абвясьцілі *дыктатуру пралетарыяту*.

Аднак, як ведама ўсім. работніцкі элемэнт у Расеі (а тым балей у Беларусі, дзе так мала вялікшых прамысловых цэнтраў) прадстаўляў заўсёды дужа невялікую частку паўтарастаміліённага насяленьня колішняе імпэры маскоўскіх цароў. Галоўнай масай насяленьня зьяўлялася і зьяўляецца цяпер — *сялянства*.

Вось-жа работнікі, адыграўшыя ролю *штыкоў* у расейскай рэвалюцыі, з гэтым фактам павінны былі лічыцца вельмі паважна. Аднак, у першыя гады пасьля рэвалюцыі мы бачылі паважнае разыходжаньне паміж местам і вёскай, якое вынікала з таго, што работніцкая ўлада як-быццам перацэньвала сваю сілу і недацэньвала значэньне сялянскіх масаў. І толькі зусім нядаўна прызнаны тэарэтычна прынцып падзелу ўлады ў Радавым Саюзе між работнікамі і сялянамі пачаў правадзіцца ў жыцьцё.

Апошняя сэсія пленуму Цэнтральнага Камітэту Р. К. П., якая адбылася месяц назад, зрабіла ў гэтым напрамку рашучы крок. У рэзалюцыях, прынятых на гэтай сэсіі, зусім выразна праводзіцца ідэя ажыўленьня *самадзейнасьці сялянства* на грунце рад (саветаў)—валасных, паветовых і вышэйшых.

Адзначыўшы, што—у сувязі з эканамічным узмацаваньнем — адбываецца магутны рост палітычнае актыўнасьці сялянства, адна з рэзалюцыяў кажа даслоўна гэтак:

„Гэты рост палітычнае актыўнасьці сялянства наагул і асабліва маламожных сялян партыя павінна імкнуцца пакіраваць перш за ўсё да *ажыўленьня саветаў*, да ўзмацаваньня дзеяльнасьці савецкіх, каапэратыўных і іншых арганізацыяў. Гэтая задача — ажывіць вясковыя саветы, зьвязаная з агульным пытаньнем аб ажыўленьні працы саветаў, зьяўляецца аднэй з асноўных і найбольш вострых задач мамэнту.

„Цьвёрдае ўмацаваньне савецкага ладу і агульныя палітычныя абставіны ў краю ў цэласьці настойчыва высоўваюць у гэты мамэнт задачу *разьвіваньня ў саветах беспасрэднае ініцыятывы самога сялянства*, большага ўцягаваньня беспартыйных сялян у ўсю работу саветаў".

А ў другім месяцы чытаем яшчэ больш характэрную пастанову:

„На выбарах правадзіць у саветы і іспалкомы (выканаўчыя камітэты) вялікшую лічбу *беспартыйных сялян і сялянак*, асабліва тых, якія карыстаюцца павагай сярод сялянства, лепш выяўляюць настроі сялян і могуць быць карыснымі працаўнікамі ў саветах, іспалкомах.

„На найбліжэйшых рэспубліканскіх і агульнасаюзных зьездах саветаў *павялічыць прадстаўніцтва беспартыйных сялян у складзе ЦІК-аў* ня менш чым па адным ад кожнае губэрні (галоўным чынам спаміж сялян, беспасярэдна зьвязаных з гаспадаркай). Пры гэтым забясьпечыць ім магчымасьць *запраўднага актыўнага і шырокага ўчасьця ў працы вышэйшых органаў улады*".

Тое-ж адносіцца і да народных камісарыятаў і іншых дзяржаўных установаў Радавых Рэспублік.

Зусім натуральна, што гэтыя пастановы былі вельмі горача прывітаны і падхоплены ў Радавай Беларусі, з увагі на склад яе насяленьня. І на павестцы сэсіі пленуму Ц.К. Камуністычнае Партыі Беларусі мы бачым бадай выключна справы, зьвязаныя з жыцьцём і працай вёскі.

Мы йшчэ ня ведаем, як на дзеле будуць зрэалізованы ўсе гэтыя рэзалюцыі. Але самы факт прыняцьця іх ясна гаворыць аб тым, што ў Радавых Рэспубліках пачынаецца *новы курс*, абаперты на сялянстве.

І сялянства павінна выкарыстаць усе тыя магчымасьці, якія перад ім адкрываюцца. Асабліва сялянства Беларусі: для яго — гэта справа і палітычная, і сацыяльная і *нацыянальная*. Нацыянальная—перад усім: бо з ёю зьвязана і справа школы, і пазашкольнае асьветы, і складу выканаўчых органаў, у якіх цяпер у значнай меры можна спаткаць астачу маскоўшчыны ад царскіх часоў, і заявы працаўнікоў гэтых органаў: „проговорить по русски"—можна, на жаль, і на сёньняшні дзень пачуць пад самым Менскам — сталіцай Радавае Беларусі!

Вялікшая актыўнасьць беларускага сялянства—вось тая дарога, на якой магчыма давясьці да канца ня толькі *вызваленьне цела, але і душы беларускай*!

## Вынікі выбарау у сельрады.

„Słowo" наказуе, што выбары ў 204 сельскія рады ў Радавай Беларусі далі гэткія вынікі.

Усяго выбраны 2,851 сябры радаў, у тым ліку:

| | |
|---|---|
| камуністаў. . . . . . . . | 226 |
| кандыдатаў у камун. . . . | 20 |
| камсамольцаў . . . . . . | 220 |
| беспартыйных . . . . . . | 2,355 |

У Менскім вокрузе вынікі выбараў яшчэ больш далі перавагу беспартыйнаму сялянству.

У 114 выбраных радах сябры іх дзеляцца гэтак:

| | |
|---|---|
| камуністаў. . . . . . . . | 113 |
| кандыдатаў у камун. . . . | 72 |
| камсамольцаў . . . . . . | 195 |
| беспартыйных . . . . . . | 1,665 |

Як бачым, пастановы камуністычнае партыі аб прыцягаваньні да працы ў сельрадах беспартыйных сялян праведзены ў жыцьцё ў першых-жа выбарах.

***Ніколі не зьнішчажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаемаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!***

# Камуністычнае паўстаньне у Эстоніі.

**ПАТ наказуе з Рэвеля, што нараніцы 1 сьнежня камуністы зрабілі тамака спробу захапіць у свае рукі ўладу.**

**Невялічкія групкі па 5—10 асоб, уваружаныя вінтоўкамі і ручнымі гранатамі, зьявіліся ў назначаны час на вуліцах Рэвеля і напалі адначасна на вагзалы, замак, парлямант, пошту, паліцыю і тэлефонную станцыю.**

**Бітва трывала 2 гадзіны. Стары ўрад перамог камуністаў. Усе захопленыя імі ўстановы ўзяты ў іх назад. Забіты ў часе бітвы міністар чыгунак Карк.**

**З паліцыі і войска забіты 18 (?) асоб. Страты ў камуністаў шмат вялікшыя. 60 паўстанцаў арыштаваны. Іх аддаюць пад ваенны суд.**

**У-ва ўсей Эстоніі абвешчана ваеннае палажэньне. Змабілізавана часьць запасных.**

## „Савецкая Беларусь" аб Вільні.

„Савецкая Беларусь" зьмяшчае ў № 274 перадавіцу ў справе прэтэнсіяў Літвы на Вільню. У артыкуле гэтым газэта заяўляе, што Літва ня можа лічыць у справе Вільні на помач Радавай Расеі, бо правы на Вільню мае бясспрэчна толькі беларускі народ. Пакуль беларус быў палітычна неарганізаваным і пасыўным, Літва магла пазывацца на „гістарычныя правы".

Але цяпер палажэньне зьмянілася рашуча. На мейсца кулацка-ксяндзоўскай Літвы на гістарычную арэну выходзяць працоўныя масы Заходняе Беларусі...

З рук моцнай Польшчы не літвінам вырваць Вільню. Гэта патроху пачынаюць разумець у Коўні.

Можам толькі дадаць, што такая вострая пастаноўка пытаньня — ня ў малай меры рэзультат слаўнай „брандмэйстэрскай палітыкі" літоўскага ўраду, адносна да беларусаў у Коўні...

# З Сойму.

Адчыняючы першае, пасьля перабудовы ўраду, паседжаньне Сойму, Маршалак паведамляе Сойм аб зьменах у габінэце.

На міністэрскіх лаўках—новыя міністры: Тугутт, Ратайскі, Жыхліньскі.

### Праект „Рольнай Рады".

**П. Панятоўскі** дакладывае законапраект аб утварэньні „Рольнай Рады"—з прадстаўніком агранамічных установаў, арганізацыяў вялікшае і драбнейшае гаспадаркі і найвыдатнейшых спэцыялістаў.

**П. Кавэцкі** (эндэк) і **Бітнэр** (хадек) дамагаюцца скасаваньня пункту, які прадугледжывае **ўдвая** больш прадстаўнікоў у Радзе дробнае зямельнае ўласнасьці—сялянства, чым ад вялікшае (хоць і агульны збор сялянскага збожа ў Польшчы ўдвая больш за абшарніцкую прадукцыю). Але гэтую папраўку Сойм адкінуў і прыняў законапраект у рэдакцыі камісіі.

### Узнаўленьне рэквізыцыі кватэр для войска.

**П. З. Сэйда** далажыў праект закона аб кватэраваньні войска.

Камісіі вайсковая і юрыдычная нармальна адкінулі прынцып рэквізіцыі, ня выгадны і для дамаўласьнікаў. Пагадзіліся з урадам на кампрамісе: патрэбныя кватэры для войска, апроч казармаў, павінна даставаць гміна—мястовая і сельская,—але ня шляхам рэквізіцыі, а на аснове дабравольных умоваў, прычым нанятыя кватэры звальняюцца—у адносінах да разьмеру платы—з-пад закону аб ахове лёкатараў. Калі гміна ня выпаўніць свайго абавязку, тады замест яе, на **яе-ж кошт**, наймае кватэры адміністрацыйная ўлада I інстанцыі. На гэтыя новыя фінансавыя абавязкі гміна можа ўвясьці і **новы падатак**—„podatek kwaterunkowy".

Але вайсковая ўлада заявіла, што гэткае разьвязаньне справы—**не выстарчае „на Усходніх Крэсах"** і ў малых пасяленьнях (на вёсцы!). Тады камісіі пастанавілі дапусьціць **на „Крэсах" і на вёсцы рэквізіцыю кватэр для войска**, хаця толькі па асобнаму загаду міністра ўнутр. спраў, які мае права—на точна абмяжаваным абшары і на пэўны час—дазваляць рэквізіцыю.

Можна зразумець, што гэта азначае для нашых „Крэсаў“!

П. **Вэндзягольскі** („Wyzwolenie“) слушна даводзіць, што ўвесь цяжар гэтага ўзнаўленьня рэквізіцыі спадзе на насяленьне „Крэсаў“, а перад усім—на „крэсавае“—гэта-ж значыць на **нашае беларускае сялянства.**

Аратар прыводзіць рад гвалтаў і надужыцьцяў, якія **ўжо** робяцца на крэсавым сялянскім абшары—на груньце ваеннага пастою. А што будзе тады, калі рэквізіцыя будзе легалізавана,—дык ужо ведама. Цяжар раскватэраваньня войска і паліцыі павінна нясьці **ўсё гаспадарства**, **яго дзяржаўны скарб**, але ня тая ці іншая частка яго насяленьня. Аратар дае вельмі цікавае параўнаньне гэтай **роўнасьці цяжараў** („równi z równymi“...) і тых „дабрадзействаў“, якія дала „Крэсам“ Польшча! Напрыклад, — павятовы самаўрад з „Кангрэсоўкі“ (Варшаўскай Польшчы) плаціць ка палініцую 40 тысячаў злотых, а Віленскі павятовы „самаўрад“ сьцягавае на гэта з мясцовых жыхароў аж 162 тысячы,—гэта значыць **больш, як у чатыры разы**!

Як кампраміс, аратар дамагаецца, каб даплаты за рэквіраваныя кватэры **зьняць з гміны** (з мясцовага насяленьня, як „podatek kwaterunkowy“), а ўзлажыць на дзяржаўны скарб.

**П. Зомэрштэйн** (жыд) прапануе рад папраўак, каб абмежаваць і ўрэгуляваць рэквізіцыі, якія заўсёды будуць крайнай надужыцьцяў.

**П. Інслер** (жыд) дамагаецца выключэньня з-пад рэквізіцыі прыватных школаў...

**Пас. Гэльман** (Wyzwolenie) слушна прыпамінае, што на „Крэсах“—вельмі многа **палацаў**, якіх уласьнікі на зіму выяжджаюць у места і заграніцу. Напрыклад, у м. Вільні ёсьць палац графіні Тышкевічавай, якая сядзіць у Парыжу, а палац яе — зусім пусты. Дык вось трэба зьвярнуць увагу на гэтыя гмахі, в. здатныя да рэквізіцыі.

**Ваенны міністар ген. Сікорскі** бароніць праект, рысуючы цяжкія кватэрныя варункі, у якіх жывуць і працуюць у Польшчы нават афіцэры. Напр. у Варшаве афіцэры часта начавалі... на вуліцах, а курсанты акадэміі яшчэ і цяпер жывуць у стайнях.

Адказываючы п. Вэндзягольскаму, міністар кажа, што ня трэба „абагульняць выпадкаў“. (Добрыя „выпадкі“! Глядзі — дзесяткі інтэрпэляцыяў Беларускага Клюбу!..). З „выпадкамі надужыцьцяў“ міністар **абяцуе вясьці сурова барацьбу** (памятайце ж, сяляне! пішыце аб усіх „выпадках“ гвалтаў — у нашу Рэдакцыю і ў Пасольскі Клюб!).

Вельмі слушна і шчыра п. міністар кажа, што **„ані армія не дае шчасьця „Крэсам“, ані яна сама не „знаходзіць там шчасьця“,—дык і зусім ня імкнецца на гэтыя „Крэсы“ сама**... (хто-ж яе прэ?—фотум?).

Гэтыя слушныя словы п. міністра варта добра запамятаць: прыдадуцца ня раз... А калі яшчэ прыпомнім, што казаў аб аружнай падставе ўлады Польшчы, перад усім на „Крэсах“ п. прэзыдэнт Войцехоўскі, дык трафныя словы п. Сікорскага сцьвярджаюць ужо нешта шмат шырэйшае і глыбейшае,—сцьвярджаюць, што „ані Польшча „Крэсам“, ані „Крэсы“ Польшчы не даюць ані карысьці, ані шчасьця“.

Пасьля прыняцьця раду дробных і важных папраўак, законапраект прыняты ў другім чытаньні.

# Канфлікт Англіі з Ягіптам.

## Канфлікт на ватнай падшэўцы.

Даўно ўжо дасьледчыкі **палітычных** падзей—войнаў, рэформаў, пераваротаў, рэвалюцыяў і г. д. — дагледзілі пад імі сацыяльна-эканамічную падкладку. Англа-ягіпецкі канфлікт,—як і нядаўна „ўладжаны“ англа-турэцкі, яскрава пацьвярджаюць гэтую тэорыю, зьвязаную з імем Маркса.

Як агідны, з увагі на становішча Англіі, канфлікт яе з Турцыяй за Мосуль „сьмярдзеў нафтай“, так ня менш паскудны канфлікт яе з Ягіптам мае, так сказаць, „ватную падшэўку“...

Справа ў тым, што за сьпіной ураду Балдвіна стаіць магутная кампанія хлопка водаў, якая захапіла ў Судане вялізарную плошчу зямлі, здатнай пад развод хлапка, ці бавоўны (з якой робіцца вата і розныя баваўняныя тканіны: сітцы, бумазеі і г. д.).

Кампанія абвясьціла лёзунг, які мае вялікую вагу для прамысловай Англіі: лёзунг вызваленьня Англіі з „хлапковай залежнасьці“ ад Амэрыкі.

Захопленыя кампэніяй абшары маюць прастору некалькі мільёнаў акраў зямлі, з якой дагэтуль абраблялася пад бавоўну толькі некалькі дзесяткаў тысячаў акраў. Справа ў тым, што ўрадлівасьць зямлі ў Судане, як і ўва ўсім Ягіпце, — цалком залежыць ад вялізарнай ракі Ніла, якая працякае праз увесь край. Уся справа—у добрай **сыстэме наваднеьня**,—у тым, каб з ракі, затапляючай вялізарныя прасторы ў пэрыяд дажджоў, захаваць—помачай добра зробленай **сыстэмы каналаў**—запас вады на час сушы,—каб пасьпелі дайсьці пасевы.

Англійская кампанія, якая, іграючы спрытна на „небясьпецы“ для Суэцкага каналу, пагражаючай панаваньню Англіі ў Індыі, дабілася амаль што не аннэксіі, а ўва ўсякім разе—**ваеннай акупацыі прылягаючага да Суэцу Судану**. А гэта значыць, што „прыражоныя гаспадары“ Судану англійскага паходжаньня, апіраючыся на сыстэму ваенна-паліцэйскіх установаў, могуць рабіць, не баючыся шуму і выяўленьня перад сьветам, розныя, мякка кажучы, патрэбныя для іх рэчы.

Кампанія спрабавала ўвясьці „новую сыстэму“ наваднеьня хлапковых плянтацыяў (палёў) англійскай кампаніі: замест **некалькіх дзесяткаў** акраў было прыгатавана пад бавоўну сыстэмай каналаў **некалькі сотняў акраў**... Пасьпех быў надспадзяваны! Акцыі „Cassala Coffou Company“ адразу падняліся. на біржы!..

Трэба толькі дадаць малую дэталь—драбязу: гэты вялікі пасьпех абшарніцка-кампанейскай гаспадаркі грунтаваўся на тым, што „новая сыстэма“ **адбірала** нільскую ваду ад іншых палёў — дробных мясцовых жыхароў—земляробаў, а перад усім—у значнай меры... **ад Ягіпту**.

Тады—з апошняй яснасьцю—раскрыліся „супярэчнасьці ягіпецкага і англійскага пунктаў гляджаньня“—у суданскім пытаньні, як гэта пішацца ў газэтах.

Рэч зусім зразумелая: Ягіпет зусім на маральна—папросту фізычна — усімі жыватамі сваіх жыхароў — зразумеў „палітычна-нацыянальнае“—бо перад усім—**геаграфічна-эканамічнае** адзінства краю з Суданам, зьвязаным адзінаю жыцьцяноснаю артэрыяй—Нілам!..

Зразумелі ягіпцяне і пагрозу англійскай „незалежнасьці“ Судану. І паставілі зусім ясна і сьвядома для кожнага жыхара басэйну вялікага карміцельца Ягіпту — ракі Нілу — праблему палітычнага вызваленьня ўсяго краю.

---

Не дарма англійскія лібэралы, якіх амаль не аканчальнае паражэньне і ўтрата ўлады зрабілі... вельмі шляхотнымі і разумнымі, пішуць у сваіх газэтах, што „адзіны запраўдна дзяржаўны інтэрас Англіі, як сусьветнай марской дзяржавы, у Ягіпце і Судане, гэта—абарона Суэцкага каналу“. Усё, што ідзе далей за гэта „законны, карысны для ўсяго сьвету, мінімум“, усё гэта—адно надужыцьце ўлады і сілы. І за ўсё гэта—як за зусім **непатрэбныя гвалты**, маючыя мэтай толькі **эгаістычныя матар'яльныя інтарэсы** — бярэ на сябе адказнасьць „кансэрватыўная Англія“, выклікаючы новыя прычыны ненавісьці і—бунту.

А калі з яшчэ больш шляхотнага пункту гледжаньня, на якім хацеў быццам з пачатку стануць Мак-Дональд, дадаць, што „ахову Суэцкага каналу“ даўно прапанавалі... даручыць Лізе Народаў, дык, як бачым, уся „праблема законных дзяржаўных інтарэсаў Англіі ў Ягіпце“ акажацца зусім пазбаўленай маральна-здаровага зьместу.

А гэты хамска-імпэрыялістычны наступ браніраванага кулака—гэты канфлікт „на ватнай падкладцы“, апроч агіды, нічога выклікаць у нармальнай душы ня можа.

**В.**

---

### Новыя рэпрэсіі ў Ягіпце.

У Каіры адбыўся вялікі сход, на якім некалькі былых міністраў ураду Заглула-пашы выступалі з пратэстам проці ўгадовасьці новага ягіпецкага ўраду, асабліва проці згоды на вывад ягіпецкіх войск з Судану.

Асабліва рэзкі пратэст сход выразіў проці зробленых англійцамі масавых арыштаў.

Пасьля сходу арыштаваны яшчэ 4 дэпутаты парляманту і некалькі студэнтаў, якія наагул хвалююцца і пратэстуюць гарачэй і адважней за ўсіх, а ў апошнія дні абвясьцілі забастоўку пратэсту.

Англійцы спынілі ўсялякую камунікацыю паміж Ягіптам і Суданам.

### Разбраеньне суданскіх войск.

Афіцыяльны камунікат паведамляе, што ягіпецкія войскі ў Судане адмовіліся выйсьці з Судану і дзеля гэтага былі гвалтам разброены англійцамі.

Новы ягіпецкі ўрад у паразуменьні з англійскай уладай імкнецца да зьліквідаваньня канфлікту без праліцьця крыві.

**А кожны дзесяты расстрэляны!**

„Без праліцьця крыві“, піша афіцыяльны камунікат. Але... два ўзводы суданскіх батальёнаў у Хартуме **збунтаваліся**, забілі 2 англійцаў і 2 дактароў.

Тады англійскія войскі **расстралялі кожнага дзесятага** з гэтых бунтаўнікоў, страціўшы, аднак, пры гэтай апэрацыі шмат сваіх жаўнераў.

### Правакатары працуюць.

Англ. афіц. агенцтва паведамляе, што англійскія ўлады маюць весткі аб істнаваньні тайнай змовы проці цэлага раду афіцыяльных асобаў. Гэткім чынам забойства Лі-Стэка ня можна лічыць абасобленым выпадкам, але—наадварот—пачаткам сыстэматычнай акцыі тэрору, працягу якой можна спадзявацца ў кожнай хвіліне.

Ясна, што гэткі стан рэчаў вымагае ўжыцьця вынятковых мераў асьцярожнасьці—пакуль не наступіць... поўнае „супакоеньне“!..

Падхопліваючы гэты лёзунг, урадовыя газэты дамагаюцца „рашучых мераў“ (яшчэ ім мала!), а перад усім—арышту ўсіх „правадыроў рэвалюцыйнага руху“.

### Урадавы крызіс у Ягіпце.

Толькі што створаны габінэт угадоўцаў ужо трашчыць, бо ня можа вытрымаць правакацыйнай палітыкі англійскіх уладаў. 3 сябры ўраду падаліся ў адстаўку, пратэстуючы гэтым проці арышту 4 выдатнейшых сяброў партыі нацыяналістаў—незалежнікаў.

### Лібэралы і партыя працы аб англа-ягіпецкім канфлікце.

Лідэр англійскіх лібэралаў, Асквіт, які знаходзіцца ў сучасны мамэнт у Каіры, піша, што Англія павінна вясьці ў Ягіпце энэргічную палітыку, але ультыматум лёрда Аленбі — грубая і шкодная для Англіі абмылка.

Мак-Дональд у спэцыяльнай прамове рэзка крытыкаваў ягіпцкую палітыку новага ўраду, бо ён незаконна і несправядліва зьвязаў з забойствам ген. Стэка цэлы рад спраў, якія трэба было разьвязаць не ўльтыматумам і аружным гвалтам, але мірным паразуменьнем з Ягіптам. Палітыка ўраду Балдвіна прынясе толькі ганьбу Англіі ў вачох сьвету. Мак-Дональд мае надзею, што ўрад урэшце аддасьць справу канфлікту ў Лігу Народаў, у якой будзе старацца... атрымаць „мандат на Судан“... Гэта толькі ўзмацуе становішча Англіі ў Ягіпце...

---

# Аб чым пішуць.

### Правакацыя, ці... „добры прыклад“?

У сувязі з арыштамі палякоў у Латвіі, абвінавачаных у „дзяржаўнай здрадзе“, „Gaz. Warsz.“ надрукавала стацьцю „Gwałty na Łotwie“, у якой высказала рад дужа цікавых думак.

Чытачы нашы помняць пэўне, як у гэтай-жа газэце розныя Обсты і т. п. кідалі беларусам у Польшчы абвінавачаньне ў „здрадзе“ проці польскае дзяржавы—без адпаведнага прыгавору суда, які-бы гэную „здраду“ цьвёрда ўстанавіў. У адносінах да латвійскіх палякоў тая-ж газэта напярод „*абелівае*“ аддадзеных пад суд „здраднікаў“ латвійскае дзяржавы—так сама бяз суда! Наадварот: латвійскі суд над імі газэта лічыць... „гвалтам“, незалежна ад таго, які будзе яго прыгавор!

Бо-ж „Gaz. Warsz.“ мае асаблівы пагляд на палякоў, якія жывуць у Латвіі. Пад той час, як беларусы ў Польшчы ня толькі павінны быць ляяльнымі грамадзянамі яе, але і любіць гэную сваю „матку“,—палякі ў Латвіі ніякіх падобных абавязкаў ня маюць! Наадварот: іх абавязак—імкнуцца да адарваньня ад Латвіі шасьцёх беларускіх гмінаў і далучэньня іх да Польшчы.

> Мы не павінны забывацца, што, дзякуючы недалужнасьці нашага ўраду, у асабліва трагічным палажэньні знаходзяцца грамадзяне шасьцёх гмінаў на левым беразе Дзьвіны, належаўшых да бальшавіцкага наезду ў 1920 годзе да Браслаўскага пав., пасьля занятых латышамі і залічаных да Ілукштскага павету. Ніякім трактатам Польшча гэтых гмінаў нікому не аддавала, жыхароў іх ніякая пастанова нашага Сойму ад польскага падданства ня звольніла. Дык яны маюць ня толькі права, але абавязак лічыць сябе польскімі грамадзянамі і павінны імкнуцца да злучэньня з „мацежай“.

Усё гэта было-бы мо' і справядліва, калі-б не адна „абмылка“ „Gaz. Warsz.“: вось-жа і Польшча не на моцы нейкіх трактатаў захапіла ў 1919 годзе і Браслаўшчыну, і гэныя 6 гмінаў, а проста акупавала іх аружнай сілай, ды так сама перад аружнай сілай пакінула іх. І трудна жадаць ад Сойму „звальненьня ад польскага падданства“ жыхароў гэных гмінаў, калі яны ніколі „падданымі“ Польшчы ня былі!

Але хто там на такія „драбніцы“ зварачвае ўвагу, калі эндэцкая часопісь адкрыта заклікае ўрад чуць што не да... вайны з „прыязнай“ Латвійскай рэспублікай! Вось, што кажа ў канцы сваей перадавіцы названая газэта:

> **Польскі ўрад** пасярэдна вінаваты ў гвалтах, робленых цяпер латвійскімі ўладамі, і **павінен верных сваіх грамадзян безадкладна вызваліць ад уціску латвійскіх наездчыкаў!**

Гэты канцавы вывад зусім „апраўдывае“ маленькую „абмылку“ „Gaz. Warsz.“, якую мы адзначылі...

### „Чацьверты падзел“.

Пад той час, як эндэкі заклікаюць польскі ўрад адабраць у Латвіі шэсьць беларускіх гмінаў пад відам „польскіх“,—„Słowo“ ўдарае ў дужа сумны тон і гаворыць аб пагрозе „чацьвертым падзелам Польшчы“.

Газэта падае выметку з францускае газэты „Action Francaise“, якая

> ў вядомай заяве Эрбэтта бачыць запаведзь чацьвертага падзелу Польшчы,

гэтак тлумачыць настроі кіраўнічых палітычных кругоў у Францыі:

> У адносінах да Нямеччыны ў Францыі істнавалі дзьве канцэпцыі: адна дамагалася зьніштажэньня яе, гаспадарчае руіны, зьмяншэньня насяленьня Нямеччыны на 20 міліёнаў, адарваньня Рэйнскае краіны, разьбіцьця палітычнага адзінства немцаў; другая—збліжэньня з Нямеччынай, завязаньня крэпкае

гаспадарчае сувязі праз прамысловыя канцэрны і падтрымліваньня нямецкіх інтарэсаў там, дзе яны не пагражаюць французскім.

Эрбэтт зьяўляецца прыхільнікам гэнае другое канцэпцыі, хоча ён плаціць Нямеччыне коштам Польшчы, але рабіць гэта „далікатна"—рукамі Расеі, каторая за сваё пасрэдніцтва таксама нешта ўрвала бы для сябе ў Польшчы.

Першая канцэпцыя ня была праведзена. Да ўлады ў Францыі дайшлі людзі другое канцэпцыі. Імкненьне да зьбліжэньня з Нямеччынай сустрэлася з традыцыйным імкненьнем Францыі да зьбліжэньня з Расеяй, ды згэтуль зарысоўваецца ў Францыі і канцэпцыя падзелу Польшчы.

А Польшча ўсё яшчэ ня можа надумацца сама пагадзіцца з сваімі суседзямі, ды астаецца вернай Францыі, якая з гэнымі суседзямі годзіцца коштам тэй-жа Польшчы, але з карысьцяй... для Францыі!

**А—віч.**

# „Трэці званок".

У „Dz. Wil." эндэцкі дэпутат Рачковскі б'е трывогу:

„Ратуйце „Крэсы", а перад усім пакрыўджаных крэсавых абшарнікаў! — Трэці званок польскім крэсам! Ідзе гайдамаччына! Але — няма Ярэмы Вішнявецкага, які-б, паводле Сенкевіча, „агнём і мячом" спыніў небясьпеку!..

На жаль, толькі што скасавана „Вялейка"... Добрае было-б мейсца для... „санацыі" пакрыўджаных"...

# Палітычны агляд.

## У Польшчы.

### Справа выняткавага стану на „Крэсах".

На паседжаньні адміністрацыйнай камісіі разглядалася прапазіцыя „нашага" віленскага эндэка Зьвежыньскага аб увядзеньні выняткавага стану на „Крэсах".

Ад імя ўраду рашуча высказаўся проці гэтага праекту віцэ-прэм'ер Тугутт, даводзячы, што выняткові стан, з аднаго боку, не супакоіць насяленьня, а, наадварот, абвастрыць адносіны на „Крэсах", а з другога боку — заграніцай выкліча папросту фатальнае ўражаньне.

„Ня трэба забывацца, што многія дзяржавы ня прызналі яшчэ нашых усходніх граніцаў, дык літоўская, (а можа і іншая) агітацыя скарыстае з добрага мамэнту, каб ізноў пачаць спрэчку з Польшчай аб усходнія ваяводзтвы ...

Лявіца зрабіла Тугутту трыумф.

Далейшая дыскусія адложана.

### „Крэсавае экспозэ" п. Тугутта.

Віцэ-прэм'ер Тугутт мае ў гэтым тыдні сказаць вялікую прамову ў Сойме—запраўднае „віцэ-прэм'ерскае экспозэ"—у справе „Усходніх Крэсаў".

### Расстрэлы.

У Наваградку даразны суд засудзіў Куроўскага Кастуся і Шабліка Язэпа—за напад на Бэрковіча 11 лістапада — на кару сьмерці. Прысуд споўнены.

### Напад у сьвянцянскім павеце.

У ноч на 28.XI аружная банда ў 10—15 чалавек напала на дом Санка ў сяле Серадзе, Кабыльн. гм. Бандыты забілі Санка, цяжка ранілі яго жонку, 2-х дзяцей і брата.

Усе раненыя яшчэ ня прышлі да памяці.

### Яшчэ бандыты.

27.XI 2 узбраеныя бандыты напала на двор Лаўроў, у Луцкім пав. Паліцыя адбіла напад, забіўшы абодвух бандытаў.

28.XI чацьвёра бандытаў напалі на пошту каля Калуша, Станіславаўск. пав. Напад адбіты, 2 бандыты забіты.

### Забастоўка ў Лодзі.

Забастоўка ў Лодзі ахапіла 90 процантаў усіх фабрык. Агульная лічба бастуючых — каля 70.000.

Атрыманы весткі аб тым, што забастоўка перакідаецца і ў другія фабрычныя раёны—у Пабіяніцы, Згеж, Озорково, Тамашоў... Забастоўка працякае арганізавана і спакойна.

### „Кола крэсавых дэпутатаў.

З „Wyzwolenia" выдзялілася (не пакідаючы клюбу) „Кола крэсавых дэпутатаў", на чале якога стаіць п. Косьцялковскі, а віцэ-старшынёй — п. Вэндзягольскі. Цікава толькі—хто-ж у гэтым „коле" іншыя „сьпіцы"? — Ці ж толькі і „сьпіцаў" у „коле", што старшыня і яго заступнік? Бо, здаецца, рэшта крэсавых дэпутатаў выйшла з клюбу зусім?..

### „Пілсудчыкі" і „Сікоршчыкі"...

У Клюбе П.П.С. ідзе глухая барацьба паміж „пілсудчыкамі" і „сікоршчыкамі".

Лідэр „сікоршчыкаў" п. Барліцкі пагражае выхадам з клюбу, калі „пілсудчыкі" з іх лідэрам п. Морачэўскім ня спыняць кампаніі проці Сікорскага.

Мы пісалі ўжо аб тым, як скандальна скампраміталіся „пілсудчыкі" ў справе галасаваньня ў камісіі над „дадатковым ваенным бюджэтам", проці якога яны голасна пратэставалі і маніліся галасаваць, а пасьля—аднагалосна падалі галасы за гэтыя крэдыты...

### „Кампілмэнт, ці іронія" (?).

У Польшчу прыехаў віцэ-шэф паветранага флёту ў Англіі ген. Брэнкер, які, пасьля сьнеданьня ў касіно I палку лятуноў, сказаў адпаведную прамову.

У прамове ўдзячны за прыём генарал сказаў, што,—як калісь (даўно...) польская кавалерыя славілася на цэлы сьвет, так цяпер... на цэлы сьвет славіцца польскі паветраны флёт...

„Dziennik Wileński", апрача вышэйпастаўленага загалоўку, дадае да гэтай тэлеграмы „A. W." ад рэдакцыі яшчэ нейкую абразьлівую ўвагу, незразумелую для нас.

## Заграніцай.

### Прысуд у справе эстонскіх камуністаў.

Скончыўся суд у справе 149 камуністаў.—39 абвінавачаных засуджаны на дажывотнюю катаргу, 28—на 15 гадоў, 6—на 12 гадоў, 19—на 10, 5—на 8, 15—на 5 гадоў катаргі; 16—на 4 гады вастрогу, 7—апраўданы.

### Яшчэ аб „лісьце Зіноўева".

Дэлегацыя англійскіх работніцкіх саюзаў („трэд-юніёнаў"), якая цяпер знаходзіцца ў ССРР, абвясьціла ў англійскіх газэтах вынікі сваіх дасьледаў у справе вядомага „лісту Зіноўева". Дэлегацыя пярэчыць заявам англійскага ўраду, быццам пісьмо—праўдзівае, і высказывае сваё глыбокае перакананьне ў сфальшаваньні яго дзеля выбарнае агітацыі.

### Новыя ноты ССРР англійскаму ўраду.

Ракоўскі падаў Чэмбэрлену 2 ноты. У першай выражае жаль Радавага ўраду з прычыны адмовы Ураду Балдвіна ад умовы з ССРР, скідаючы з радавага ўраду адказнасьць за гэта; другая нота катэгарычна заяўляе, што так-званы „ліст Зіноўева"—сфальшаваны, ды што ўрад ССРР наагул ня можа браць на сябе адказнасьць за дзейнасьць III Інтэрнацыяналу.

### Кара сьмерці для польскага афіцэра ў Менску.

„Савецкая Беларусь" піша, што б. польскі афіцэр з Віленшчыны, Сабліньскі, засуджаны Найвышэйшым Трыбуналам Беларусі на кару сьмерці за службу ў польскай контр-разьведцы. Ён быццам прыяжджаў з Польшчы ў Смаленск у мэтах разьведкі.

### Мікалай Мікалаевіч—ізноў „Глаўнакамандуючы".

„Новое Время" паведамляе аб здарэньні „вялізарнай вагі" для ўсяго расейскага манархічнага руху: былы Вял. Князь Мікалай Мікалаевіч (на злосьць „цару Кірылу I"...) аб'явіў сябе „Галоўнакамандуючым усей расейскай арміяй і ўсімі расейскімі ваеннымі арганізацыямі", якія знаходзяцца... за-граніцай!

### Выбарная кампанія ў Нямеччыне.

Нямецкі канцлер і лідэр хрысьціянскіх дэмакратаў, Маркс, у сваей апошняй выбарнай прамове заклікаў выбаршчыкаў не разьбівацца на малыя партыі, якіх усяго ў краю істнуе аж 25! — Далей ён ганіў так звычайныя ў Нямеччыне проці-жыдоўскія выступленьні, якія пярэчаць духу хрысьціянства.

### Прамова Штрэзэмана.

Цікавую прамову сказаў на мітынгу нямецкіх людоўцаў іх правадыр, міністар заграничных спраў Нямеччыны, Штрэзэман. Ён казаў, што ніводзін немец не павінен траціць надзеі на паварот усходніх правінцыяў „на лона мацеры"... Але Нямеччына пастаўлена пакуль-што ў такое палажэньне, што ў гэтай акцыі ня можа апірацца на аружную сілу.—Дык тым больш павінна павялічываць яна сваю эканамічную моц, бо гэта—падстава яе будучай перамогі...

Няпраўду кажуць, быццам нямецкі ўрад прадаў інтарэсы народу заграничнаму капіталу, прыняўшы „плян Доўса". „Плян Доўса", даўшы Нямеччыне заграничны капітал, які ўложаны ў Нямецкія прадпрыемствы, гэтым самым забясьпечыў ад аружнага гвалту з боку дзяржаў-пераможцаў...

У канцы аратар рэзка пратэставаў проці тых сьвяткаваньняў, якія арганізуюцца ў Польшчы, з прычыны ўгодкаў адарваньня ад Нямеччыны яе ўсходніх правінцыяў, бо гэта зьяўляецца абразай для Нямеччыны...

### Апэтыт Францыі расьце...

Француская прэса ярка пацьвярджае тое, што толькі што пісаў у сваім артыкуле Вялес („Ягіпецкая казьнь..."). —Ягіпецкая Трагэдыя—нават у найбольш радыкальных, левых групах — толькі распалівае прагавітыя апэтыты.

Вось, што піша, напр. газэта „Fcho de' Paris":

„Француска-англійскі саюз мог-бы атрымаць новую падпору ў сувязі з ягіпецкім канфліктам, які даказывае... супольнасьць інтарэсаў абодвух народаў"...

Ці-ж гэта—ня ясна?—Заключым цясьнейшы саюз, каб зручней душыць слабейшых.

Але, запраўды, рэкорд цынізму пабіла (калі польскія агенцтвы і газэты не перакруцілі сэнсу артыкулу, вырваўшы з яго кавалкі) радыкальна-лявіцовая „Новая Эра", наагул заўсёды бараніўшая правы і інтарэсы малых і пакрыўджаных народаў.—Гаворачы аб адмове Англіі аддаць справу канфлікту ў Лігу Народаў, газэта піша: „Мы ня будзем пратэставаць проці гэтай адмовы, але і не забудземся аб ёй... І ў той дзень, калі Англія ўмяшаецца ў справу, якая будзе зьвязана з француськімі інтарэсамі,—тады Францыя будзе падтрымліваць таксама той пагляд, што ніхто ня мае права трэбаваць і ад нас ніякага адказу ці тлумачэньня".

Сэнс—таксама ясны!

Францыя маўчыць цяпер, калі Англія касуе аружным гвалтам незалежнасьць Ягіпту, але затое Англія павінна будзе таксама маўчаць, калі Францыя тое самае будзе рабіць з Марокко ці Сірыяй.

Ці ня ў зьвязку з гэтым у Сірыю назначаны новы высокі камісар ген. Сарай — на месца ген. Вэйгона?..

### Барацьба з фашызмам у Італіі.

Вялікае ўражаньне ў краю зрабіла адстаўка знамянітага шэфа фашыстаўскай „міліцыі" ген. Бальбо, які ўславіўся сваімі цыркулярамі да міліцыі аб ужываньні „валэйшаўскіх" рэзінавых палак у барацьбе з палітычнымі праціўнікамі фашыстаў.

Пад націскам грамадзкай апініі Мусоліні кінуў гэтую ахвяру апазіцыі, але апазіцыя зусім не здаволена гэтым крокам, які зьмяніў асобу, але не **зьмяніў сыстэмы...**

### Праграма новага ангорскага ўраду.

Новы турэцкі прэм'ер Фэтті-бэй у сваім экспозэ—выклажыў праграму свайго габінэту. Урад мае на мэце заахвоціць заграничны капітал да працы ў краю; падтрымліваць моцную армію; выпаўняць прынятыя Турцыяй міжнародавыя забавязаньні і—чакаць справядлівага вырашэньня ў Лізе Народаў справы Мосулю, апіраючыся на добрыя адносіны з Англіяй і прыязныя адносіны з Францыяй.

Урадавая праграма прынята аднагалосна.

### Новы габінэт у Кітаю.

Выданы дэкрэт аб назначэньні новага габінэту ў Кітаю. Туан-чы-ю назначаны прэм'ерам і часовым галавой дзяржавы. У новым урадзе зусім няма прыхільнікаў Фэнг-ю-к'янга.

Радавы пасол ССРР у Кітаю, Карахан атрымаў ад свайго ўраду даручэньне прызнаць толькі фактычна, а не юрыдычна, новы кітайскі ўрад.

Японія прыслала свайго прадстаўніка ў Пэкін.

Іншыя дзяржавы яшчэ ня прызналі новага ўраду.

# ХРОНІКА.

**„Гудок"**. беларуская аднаднёўка, выйшаў у Горадні пад датай 27 лістапада. Трэба шчыра прывітаць гэтую новую спробу здаволіць патрэбу горадзенскіх беларусаў мець свой орган.

Газэтка ўложана вельмі цікаўна, зачапляе найважнейшыя пытаньні нашае сучаснасьці, ацэніваючы іх з пункту гледжаньня інтарэсаў працоўных масаў. Лёзунг яе: „Праз клясовае вызваленьне—да вызваленьня нацыянальнага!"

**„Справа 72"**. Як піша „Гудок", 12 лістапада атрымалі акт абвінавачаньня 72 беларусы, частка якіх сядзіць у Горадзенскім вастрозе. Закідываюць ім прыналежнасьць да беларускай партызанскай арганізацыі, якая манілася адарваць ад Польшчы Заходнюю Беларусь (арт. 102 К. К.).

Блізу ўсе абвінавачаныя—сяляне-хлебаробы. Прасядзелі ў вастрозе ўжо 28 месяцаў.

Пракуратура выклікае 49 сьведкаў, у тым ліку „ўславіўшагася" на працэсе „45" у Беластоку Эдварда Ленкевіча.

Фактычна, справа гэтая зьяўляецца працягам беластоцкага працэсу, толькі будзе разглядацца Горадзенскім Акружным судом. Спадзяюцца, што пачнецца ў пачатку будучага году.

На суд маюць прыехаць заграничныя карэспандэнты, у тым ліку і прадстаўнікі радавае прэсы.

**Вынікі Зьезду Каапэратываў.** Ня гледзячы на заклікі прэсы, ад беларускіх каапэратываў прыехала мала прадстаўнікоў, да таго-ж і прыехаўшыя не здалелі, як сьлед, з'арганізавацца. Дзеля гэтага ізноў перамаглі палякі і выбралі чыста польскую ўправу. Толькі ў раду саюзу прайшло некалькі беларусаў.

Сумны гэта факт, — але і павучальны, бо паказуе, як нам патрэбна моцная арганізацыя грамадзянства і адзіная воля, разьбіваная цяпер рознымі варожымі вам сіламі і знутра, і звонку....

**Сход Т-ва Беларускае Школы**, які быў назначаны на 30 лістапада, як неправамочны, з прычыны адсутнасьці кворуму, перанесены, згодна з статутам

Т-ва, на 14 сьнежня (на другую нядзелю) і адбудзецца ў тым жа месцы і ў тэй жа гадзіне.

Паўторны сход будзе правамочны пры ўсякай лічбе прысутных.

**Папраўка.** У справаздачы з суда ў справе высяленьня беларускіх устаноў з Базыльянскіх муроў у папярэднім нумары нашае газэты зроблена абмылка: ад ураду выступаў не адв. Копэць, а адв. Обезерскі.

# Карэспандэнцыі.

## Добры, але для паноў абшарнікаў.

*(З Горадні).*

23/IX с. г. ў міравога судзьдзі I раёну, п. Гарбачэўскага, разьбіралася справа гаспадара дому з Пачтовай вул. № 8, Кажэўніка Самуля, і старажыхі Крыштонік Марыі аб высяленьні апошняй з памяшчэньня.

Спор паўстаў з прычыны заработнай платы.

3 гады, як сам гаспадар зьбірае грошы з кватарантаў, а ей нічога ня плаціць.

Старажыха платы не дамагалася, а была рада, што мае над галавой страху і сякі-такі складзік на дровы. Але, як гаспадар адабраў у яе складзік, дык яна зьвярнулася ў саюз дворнікаў, просячы помачы.

Калі прадстаўнікі саюзу дворнікаў прыйшлі да гаспадара за разьясьненьнем, дык гаспадар, як вар'ят, давай крычаць: „Камуністаў, бальшавікоў прывядзі", а я як не плаціў, дык і плаціць ня буду.

Хоць справа не падлягала міравому судзьдзі, а інспэктару працы. (Dz. ust. z 1 serp. 1919 r. 394 art. 19 i ust. 23/I 20 r. 53). Судзьдзя справу „разабраў", і пастанавіў: высяліць да 1/XI з безадкладным выкананьнем.

4/XI судовы каморнік Балеслаў Чэрноўскі з паліцыянтам № 1364, у часе, калі ня было гаспадыні дома, пачалі „высяляць".

Прышоўшы дамоў, гаспадыня ўбачыла параскіданыя і паламаныя рэчы, вырваны прабой: пана каморніка з панам паліцыянтам, „парадкаваўшых" яе „гаспадарку", а пасьля агледзілася, што і грошы куд-сь „паляцелі".

Але, вось другая справа пана Каморніка.

Гэтаму самаму Каморніку папала справа абшарніка Няверскага Рамана, з фальв. Будоўля, каб спагнаў з яго 42 пуды жыта і 120 пудоў бульбы на карысьць работніка Гарошкі Янкі. Дык пан Каморнік зайшоў, „пагутарыў" і вярніўўся назад.

На паўторную просьбу, каб ён паехаў спагнаць належнасьць, ей, адмаўляецца, кажучы, што абшарнік злажыў пратэст, хоць юрыдычна ня можа: справа разьбіралася 27/II 24 г., прайшло 8 месяцаў. **Ш. Н.**

## Як гэта ўсё назваць?

*(Вёска Абухава, Жыдамлянскае гм., Горадзенск. п.).*

Вёска Абухава налічае за 70 дзяцей школьнага ўзросту. Мае сваё даваеннае школьнае памешканьне, нават з даваенным сторажам, але што з усяго гэтага, калі дзеці прымушаны хадзіць у польскую „асадніцкую" школу да калёніі „Koło-sad", дзе жыве толькі 5 вучняў?

Калёнія гэтая знаходзіцца ад в. Абухава ў 2 вярстох, дык ціж не справядлівей было-бы адчыніць школу ў Абухаве і абязаць 5 вучняў хадзіць да 70 такіх самых вучняў, а не наадварот?

Але ў тым-жа і справа, што не такіх самых! Тут—дзеці-беларусы, а там—дзеці п. п. асаднікаў!

Аб гэтым ужо ў сваім прыгавары прасілі п. Інспэктара, але ён кажа, што так павінна быць, як ёсьць, а аб беларускай школе і гаварыць не дае—ведама, як пан...

Дык ціж ня збыткуецца школьная ўлада над нашымі дзеткамі, ціж ня хоча яна іх памарозіць на дарозе ад Абухава да асадніцкае школы? І як жа-ж усё гэта, браткі мае, назваць? **Я.**

## Нашы настроі.

*(Пацаўская гміна, Слонімскі пав.).*

Цяжкае жыцьцё нашага беднага сялянства пад апекаю польскіх паноў абшарнікаў, якія ўвесь цяжар звалілі на плечы нашаму сялянству.

Як ты ні працуй, як ні выкручвайся—і такі ня можаш даць сабе ніякае рады з усімі нязлічанымі падаткамі і павіннасьцямі, ды з жыцьцёвымі патрэбамі. Як ужо ні загартаваны наш брат усімі гэтымі цяжарамі, але тут ужо прышлося так, што і з чортавай натурай выцярпець трудна. У многіх вёсках, ня маючы чым аплаціць усіх падаткаў, сяляне спраціўляюцца, як войт прыехаўшы з паліцыяй забіраюць астатнія кароўкі (напрыклад: Нагорнікі і Юровічы, гміны Дзятлава), ня гледзячы на тое, што гэта часта пахне турмою.

А як-жа жывець той, каму судзіў няшчасны лёс жыць з панскае ласкі: Аб гэтым да гэтае пары ніхто з нашых карэспандэнтаў ня даў ніякае заметкі на шпальтах беларускіх газэт.

Вясковыя і фальварковыя работнікі, якія ня зьвязаны ў прафэсіянальныя саюзы, жывуць у найгоршай беднасьці, часта ня маючы куска хлеба, каб заспакоіць свой голад. Мізэрная плата за цяжкую працу! Напрыклад, такі работнік атрымоўвае ў дзень па злотаму, рэдка па паўтара, і за гэтыя грошы трэба быць сытаму і адзетаму, ды яшчэ каб мог здабыць сабе і духовую страву.

Вось тут і рабі, што хочаш, лятуці аб сьветлай будучыне і будзь шчасьлівым... **Н. Жальба**

## Як сьвярджаюць пратаколы.

*(З Валожыншчыны).*

У вёсцы Літве, Палачанскай гміны, Валожынскага пав., ёсьціка сто дзяцей школьнага веку. У 1920—21 школьным годзе існавала тут беларуская школа, і дзеці вучыліся ў роднай мове. Здавалася, навука пойдзе ўверх, быццам усе расьліны ў вясеньні дзень; бо, як ведама, для дзяцей па-своему ёсьціка ўсё зразумелым. Праўда, за гэты год дзеці навучыліся шмат чаго добрага, бо навука выкладалася пастолькі, паскольні дзеці маглі запамятаць. Але ў 1922—23 годзе школу беларускую зачынілі, а заместа яе адчынілі дзьве польскія школы, і дзяцей прымушаюць хадзіць туды хоць, як ведама, за гэтыя гады дзеці так навучыліся, — што нават ня ўмеюць і расьпісацца.

Але ў гэтым годзе жыхары нашай вёскі, як даведаліся аб „językowych ustawach" 23 верасьня сабраліся, напісалі прыгавор, упаўнамочылі двух чалавек, якія павінны дамагацца адчыненьня беларускай школы, і аддалі гэты пратакол падсолтысу, каб сьвярдзіў подпісы праз ужонд гм. Але, як кажуць: „ня туды, рабая". Бо як аддаў падсолтыс пратакол пісару, дык гэты пан паглядзеў і кажа: „tu jak dwie ręki podpisali, ale dzisiej nie będzie wojta". Падсолтыс пачэрабіў галаву і кажа: „як прыедзе войт, то прашу сьвярдзіць". Такім парадкам пратакол праляжаў каля нядзелі, і калі пашлі другі раз і пытаюцца, ці сьверджаны пратакол, так войт адказаў: „зара паглядзім, але тут данесся шопат: „może oni przez swoją organizację robią, a my będziemy stwierdzali?" — і тады войт зразу адмовіўся, — што ня ведае, хто падпісаў пратакол!?

У той-жа дзень сабраліся ў доме заступніка абвадовага солтыса, які цяпер замяшчае абвадовага солтыса, і напісалі другі пратакол і хацелі падпісаць у прысутнасьці войта; але пачакалі аж да дванаць другой гадзіны, а войта ня было. Тады падпісалі другі пратакол і сказалі абвадоваму солтысу і каб ён сьвердзіў іх подпісы, а войт яго подпіс, і такім парадкам усё гэта было зроблена. Але і другі раз войт адмовіўся і, пасьмейваючыся, кажа: „можа дзеці падпісалі". Але солтыс кажа, — што „ўсё гэта рабілася на маіх вачох, і я сьвярджаю ўсе подпісы, а пан войт сьвярдзіце мой". Але сэкрэтар крыкнуў: „Wy nie macie prawa to wszystko robić, bo liczycie się jako urzędnik!!! І другі пратакол сустрэла ўсё тое, што і першы!

Але жыхары, моцна стоячы на жаданьні адчыніць беларускую школу на моцы § § 3 і 4 ustawy o organizacji szkolnictwa, напісалі трэці пратакол 12 кастрычніка, сабраўшыся ў доме войта і трэбуючы, каб сьвярдзіў іх подпісы. Толькі тут войт увідзеў, што няма рады, бо няма як сказаць, што дзеці падпісываюць, ці хто іншы, ды сам-жа бачыў, што падпісываюць бацькі шэсцідзесяцёх дзяцей, якія жадаюць вучыць сваіх дзетак у роднай мове.

Але і тут п. войт адмовіўся катэгарычна, што падпісываць ня будзе, бо баіцца, але ня ведама чаго? Мусіць, каб ня страціць папулярнасьці ў яснавяльможных. Сказаў толькі, што хутка будзе засяданьне рады гміннай і urzędnik ад староства, дык тады як сабе хочаце!

Чакаем цяпер, чым гэта скончыцца.

**Ад імя вёскі (подпіс)**

## Кпіны ці ашуканства?

*(З Дзісеншчыны).*

Жыве ў Празароках грам. Нікіфароўскі. Жыве ціха, спакойна, ледзь перабіваючыся з гора ў бяду. Толькі мясцовая ўлада, а мо' і гдзе і вышэйшая, маюць яго ня ў ласцы за тое, што ён беларус,—дый ня цёмнае „быдла", а троху сьветлае, — дык і не баіцца прызнавацца беларусам (бо, здаецца, гэта не караецца ніякім артыкулам Кодэксу Карнага?). Ну, і чапляюцца да бедака ўжо каторы год з абыватэльствам. А адкуль ён яго возьме? Паходзіць сам з духоўных, радзіўся недзе ў Горадзеншчыне, у прызыўныя запісываўся ў Ашмянах, жыў гдзе год, гдзе два—па ўсей Віленшчыне. Вядома, куды назначаўся бацька — дзяк, туды і ён ехаў. Цяпер ужо восьмы год, як асеў у Празароках. Дык падавай ім выпіску з „ksiąg stanowych", а гдзе гэтае ўзяць, калі ўсё за вайну перавярнулася да гары нагамі, а на слова нашаму брату ня вераць?

Дык шостага дня лістапада прыносяць яму з гміны ўжо гатовае „zobowiązanie", у якім напісана, што Н. на дзень 5-га лістапада абязуецца ставіцца да староства ў Глыбокае, дзеля рэгістрацыі, як чужаземец. Добры чужаземец! Але як ставіцца на 5/XI, дастаўшы паперку 6/XI,—гэта пэўна ня вырашыў-бы і сам Архімэд! Сказаць-бы: ад гміны жыве Н. далёка,—дык не—і поўвярсты няма.

Толькі Н. гэтага „zobowiązania" не падпісаў, кажучы, што няхай той, хто яго гэтак разумна напісаў (пан памоцнік пісара Шапулеўскі,—ён-жа і асаднік), і паспрабуе паехаць шостага лістапада 1924 г. ў Глыбокае, каб трафіць туды на пятага лістапада таго-ж 1924 г!..

Тады за поўгадзіны прынясьлі Н. новае „zobowiązanie", каб ехаў на 8/XI, але бядак Н. і гэтага не падпісаў, бо ня ведае, калі ён зможа паехаць у Глыбокае. Свайго каня ня мае, наняць ня мае за што, пяхатой—90 вёрст туды і назад ды гразёй — ніяк ня можна, на чыгунку — трэба 10 злотых, а тут у хаце ўсяго 70 грошаў. Бяда, хоць плач, з гэтым абыватэльствам: і дзяды і дзядзькі і матка чалавека ўсе з Дзісеншчыны, і сам усё жыцьцё бродзіць па Віленшчыне, і чужаземец!.. **Зязюля.**

## Шляхцюкі дурэюць.

*(в. Сасноўцы, гм. Ракаўскай, Стаўпецкага пав.).*

У вёсцы Сасноўцах ёсьць так сабе паўпанак Альшэўскі, які мае валок дзевяць зямлі. Здаецца, кавалак ні маленьні, можна жыць прыпяваючы; але бяда, што ў ім парадку няма.

Хачу я тут сказаць аб Альшэўскага сынох, якія занадта разгуліваюцца, не па нашаму. Адзін Альшэўшчык (а іх ёсьць чатырох), пусьціўся на такі спосаб: бярэ пляшку гарэлкі і якога небудзь шулера за сьведку, ды едзе пазычаць даляры, калі даведаецца, што ў яго ёсьць. Хто неспрактыкаваўся, дык і дасьць, а ён вексаль напіша свой уласны, падпішацца сьведка, і памінай, як звалі.. Такіх выпадкаў пералічыць цяжка.

Але без работы чаго чалавек ня прыдумае? Вось, і яны прыдумалі лягчэйшую штуку.

З вёскі Страплеўцы нанялі пашу ў арандатара Васукевіча і прыехалі на начлег некалькі хлапцоў і дзяўчат, разлажылі агонь і сабе сядзелі, гутарылі,—ведама як на начлезе. Аж у гадзіне дванастай чуе адзін хлапец, нехта путы зялезныя рэжа (мусіць пілкай), ён пабудзіў хлапцоў і кажа: ці не бандыты хочуць коні ўзяць? Яны туды, аж глядзяць: Альшэўскія два, Жызьнеўскі, ды яшчэ нейкі „егомасьць" (чатырох іх было)! Дзепа кепскае: злавілі стыд і сорам. Гэтыя свайго роду бандыты накінуліся на аднаго начлежніка з славамі, „czy był ty w polskim wójsku?". Ён кажа: быў! Дык яны яму накладную такую далі, што той бедны чуць жывы астаўся. А за дзяўчатамі ганяліся па кустох ня мала часу; ня ведаю, чым там кончылася.

Толькі за нядзелі дзьве ўбачылі іх на судзе. Засудзілі Жызьнеўскага на дзьве нядзелі вастрогу, а Альшэўскія апраўдаліся. **Парнаскі Валацуга.**

# Паштовая скрынка.

Ад: **Пятра Альшэўскага, М. Бабінеца, С. Мікуліча, Казімера Грынкевіча, Аляксандра Голуба, Міхала Скока, Аляксандра Акудовіча, Ц. Петрашкевіча, Антона Дзіка, Тодара Германюка, Гардзея Смольскага, Кірыла Саевіча, Гальяша Каронко, Вінц. Рымашэўскага, Базыля Рэчко, Мікіты Каляды, А. Кондырчуса, Васілеўскага, Канона Касьцюкевіча, Мікалая Пракапені, Тодара Горскага, Валадзімера Шыманскага, П. Вароны** — па 2 зл. атрымалі.

Ад: **А. Лыча** — 2 зл. 60 гр. атрымалі.

Ад: **Язэпа Шышкі, Сяргея Салаўя** — па 3 зл. атрымалі.

Ад: **Язэпа Казекі, Р. Клаўсуця, Валадзімера Бэзушка** — па 4 зл. атрымалі.

Ад: **Л. Баначкоўскай, Б. Цюмчыка, Пятра Конона** — па 5 зл. атрымалі.

Ад: **М. Ціханчука** — 6 зл. атрымалі.

Ад: **С. Васілевіча** — 7 зл. атрымалі.

Ад: **Аляксея Завацкага і Антона Конколовіча** — па 10 зл. атрымалі.

Ад: **С. Машэцкага** (Газэтная Кантора ў Лідзе) — атрымана за прададзеныя газэты 13 зл. 25 гр.

**Нікалаю Лебедзінскаму.** Зрабіце спраўку на сваей пошце, дзе дзяваецца газэта; мы яе высылаем акуратна. За карыстаньне паштовай скрынкай плаціць трэба.

**Міхалу Скоку.** Газэту Вам пачалі высылаць 16.X г.г. Кніжкі таксама былі высланы.

**Тодару Шыбуту.** Геаграфія Беларусі каштуе 1 зл. 80 гр.; Гісторыя — 1 зл. 50 гр. Абедзьве кніжкі можна выпісаць з Беларускай Кнігарні — Вільня, Завальная 7.

### На прэсавы фонд „Сялянскай Праўды".

Сабраны праз Пескаўскі Пасольскі Сэкрэтарыят 17 злотых.

Ахвярадаўцам шлем шчырую падзяку.



Рэдактар-Выдавец **Антон Войцік.**

Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.